Год II. Сакавік 1933 г. № 3 (15).




## БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН.
Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Альбэртын. Сакавік 1933 г. № 3 (15)

## Дабравешчаньне Найсьвяцейшай Дзевы Марыі.

(*ЭВАНГЕЛЬЛЕ ПАВ. СЬВ. ЛУКІ 1, 24—38*)

(*25 сакавіка*).

*«Восъ я — слуга Госпада».*
(*Съв. Лукі 1, 38*).

Сяньняшняе эвангельле гавора нам аб вельмі важным здарэньні, якога ад пачатку істнаваньня сьвету ня было. Госпад Бог зьлітаваўся над грэшнымі людзьмі і над іх нядоляй, паслаў Сына свайго на зямлю для збаўленьня роду чалавечага. Каб збавіць род чалавечы ад граха і пагібелі, ад вечнага няшчасьця, Ісус Хрыстос, Сын Божы, зрабіўся чалавекам.

Праз некалькі тысяч гадоў людзі чакалі Збаўцы, прыракаў Госпад Бог прыслаць Яго яшчэ першым нашым бацьком у раі. З вялікаю журбою выглядалі Збаўцу сьвятыя людзі, пракокі. Выцягалі рукі да неба і ўздыхаючы маліліся: „*Спусьцеце расу, нябёсы, зъверху, а вобалакі хай спусьцяць з дажджом Справядлівага; хай адчыніцца зямля і родзіць Збаўцу*" (Іс. 45, 8).

Выпаўніўся час, Госпад Бог пастанавіў выканаць абятніцу, дадзеную яшчэ ў раі Адаму і Эве. Прыглядзімся, якім спосабам выконвае Госпад Бог вялікую тайну любові. „*Пасланы ёсьць*, — кажа Сьв. Пісаньне, — *ангел Гаўрыіл ад Бога*" (Лук. 1, 26).

Паўстае пытаньне: У якой справе быў высланы гэты адзін з найважнейшых князёў двара нябеснага? Ці мо' перад прыходам Мэсыі мае абвясьціць людзям новага прарока, ці можа мае задачу, абвясьціць стварэньне новае зямлі. О, не! архангел Гаўрыіл мае важнейшую задачу, мае людзям абвясьціць прыход на зямлю самога Бога, Другой Асобы Найсьвяцейшае Тройцы. Мае на сабе

Богам наложаную вялікую задачу — пайсьці да, выбранае паміж усімі жанчынамі, Найсьвяцейшай Дзевы, каб Ёй абвясьціць гэту дзіўную навіну, што нікога другога, а толькі яе Бог выбраў за Матку для свайго Сына.

Запраўды, гэта вялікая ласка і найбольшая дастойнасьць на сьвеце — быць Маткаю самога Ўсемагутнага Бога. Гэта дастойнасьць так вялікая, што мы нашым розумам сьцяміць ня можам.

Чалавек настолькі ёсьць сьвяты і дастойны, наскольки стаіць бліжэй жорала ўсякае сьвятасьці і дастойнасьці, самога Госпада Бога. Хто-ж з людзей бліжэй да Бога за Найсьвяцейшую Багародзіцу? Яна ў сваім прачыстым лоне праз 9 месяцаў насіла Госпада Ісуса Хрыста, з Яе найчысьцейшае крыві і цела прыняў цела чалавечае Сын Божы. Лучнасьць паміж Ісусам Хрыстом і яго Маткаю была так блізкаю, як бывае заўсёды ў людзей паміж маткаю і яе дзіцём. О, запраўды, найвялікшая годнасьць для стварэньня быць Маткаю свайго Тварца!

Чым-жа Прачыстая Дзева выслужыла так вялікую ласку?

О, не, так вялікую ласку, быць Маткаю Бога, ніхто ніякім пастулкам ня можа выслужыць. Нашыя чалавечыя заслугі вельмі малыя, каб маглі выслужыць гэткую вялікую ласку.

Чаму Найсьвяцейшую Дзеву Марыю, а ня іншую жанчыну, Бог выбраў да гэткай вялікай дастойнасьці, чым яна спадабалася?

Прачыстая Дзева адзначалася ўсімі цнотамі, была свабодна ад найменшага граха, любіла Бога ўсім сваім чыстым сэрцам, любіла таксама бліжняга. — Адным словам адзначалася ўсімі цнотамі ў найвышэйшай ступені.

Аднак трэба сказаць, што не дзеля ўсіх цнотаў найбольш з усіх людзей падабалася Госпаду Богу Прачыстая Дзева Марыя, але дзеля аднае цноты. Гэта цнота была галоўнай прычынай яе ўзвышэньня, а называецца яна — пакора.

Сьв. Пісаньне кажа: *„Бог гордымі брыдзіцца, а пакорным ласку дае“*. (Як. 4, 6). Пакорны, калі нават і найбольш абдараны ласкамі Божымі, дык ня прыпісвае гэтага сабе, а Госпаду Богу. Каб чалавек мог атрымаць дары Божыя, мусіць даць месца ў сваёй душы, апарожніваючы яе з свайго я. Чым больш чалавек выракаецца сваіх жаданьняў, свайго асабістага я, тым больш робіцца годным Божае ласкі.

Душа чалавечая падобна да збанка: калі збанок поўны вады, дык нічога да яго ня можна ўліць, ні малака, ні віна, нічагусенькі. А калі да гэтага збанка хочам уліць, напрыклад, добрага віна, дык мы павінны раней выліць ваду. Чым больш выльеш вады, тым больш на яе месца нальеш віна.

Найбольш віна ўвайдзе да гэткага збанка, з якога ўсю да рэшты выльем ваду.

Таксама і Бог таму чалавеку дае больш ласкі, які найбольш вырачацца свайго я, калі ён сьцяміць, што ён нішто перад Госпадам Богам, калі душа яго будзе парожняя ад усялякае пыхі.

Душа пакорная найбольш падабаецца Богу, і на такую душу найбольшыя і найдаражэйшыя вылівае свае дары, дае свае ласкі, паводле слоў псальма: „*Бяздоньне гукае бяздоньню*“ (Пс. 41, 8).

Дзеля таго Госпад Бог выбраў Прачыстую Дзеву Марыю на Матку свайму Сыну, што яна была перш за ўсё найпакорнейшай з усіх людзей. Гэтае бяздоньне пакоры было прычынай бяздоннай дастойнасьці. Найсьвяцейшая Дзева зрабілася Маткай Слова, якое зрабілася целам.

Сама Багародзіца ў сваім гымне захопленьня і падзякі, выяўляе прычыну свайго ўзвышэньня: „*Глянуў Ён на пакорнасьць рабы свае, бо адгэтуль шчасьліваю называцімуць мяне ўсе роды*“ (Лук. 1, 48).

„Адгэтуль!“ Не дзеля таго яе будуць называць шчасьліваю, што яна паходзіла з роду цара Давіда, не дзеля таго, што была дзеваю мудраю, не дзеля таго, што ад'значалася вялікаю сьвятасьцю, але дзеля таго, што была пакорнаю. Госпад Бог „*глянуў на пакорнасьць рабы свае*“.

Найсьвяцейшая Дзева была пакорнаю ня толькі перад сваім узвышэньнем, але і пасьля яго асталася такою самаю, таксама пакорнаю. Не згаджалася на вельмі вялікі і пачэсны выбар на Матку Сына Божага, лічыла сябе нягоднаю. Калі-ж пазнала, што такая ёсьць воля Божая і Бог чакае яе згоды, Найсьвяцейшая Дзева, вельмі проста і з вялікаю пакораю, адказала: „*Вось я — слуга Госпада; няхай будзе мне паводле слова Твайго*“ (Лук. 1, 38).

Бяздоньне пакоры Прачыстай Дзевы Марыі прыцягнула яшчэ глыбейшае і зусім незразумелае бяздоньне зьнішчэньня Божага. Запраўды бяздоньне зьнішчэньня праявіў Сын Божы, калі прыняў чалавечую натуру, зрабіўся чалавекам. „*Які, будучы ў постаці Боскай, ня лічыў захопам быць роўным Богу; але зьнішчыў Сябе Самога, прыняўшы абраз раба, стаўшы на падабенства людзей і здаўшыся выглядам, як чалавек*“ (Філіп. 2, 6—7).

Вось, мае дарагія браты, найлепшы прыклад пакоры. Калі найсьвяцейшая паміж усіх людзей, Прасьвятая Багародзіца лічыла сябе слугой толькі Госпада Бога, лічыла сябе нічым перад Богам, то тым больш павінны мы лічыць сябе толькі нягоднымі слугамі нашага Тварца. Ці-ж можам мы сябе параўняць з Найсьвяцейшаю Дзеваю, ці-ж маем мы сьвятасьць, падобную да Яе сьвятасьці, ці-ж нашае жыцьцё было свабодным ад усякага граха? А ці хоць, пры-

намсі, мы можам дараўняць яе пакоры. Дзе там! калі ў іншых цнотах Прасьвятая Дзева перавышае нас на цэлае неба, дык яшчэ больш перавышае нас пакорай.

Штодзеннае жыцьцё нам паказвае, што няма ў нас пакоры. Нам усё здаецца, што мы ёсьць чымсь, — пагарджаем другімі, а сябе ставім высока. Мо' нават і здаецца нам, што маем цноту пакоры, а мо' нават і гаворым аб сваёй нягоднасьці, хай хто-нібудзь выявіць да нас непашану. або ў чым нібудзь абразіць нашае самалюбства, тады адразу, замест пакоры, паказваем сваю гордасьць, сваю пыху.

Бедныя мы, вельмі бедныя духоўна, так нам патрэбна ласка Божая. Найбольш нам не хапае праўдзівае пакоры, калі-б мелі мы пакору, мелі-б таксама і іншыя ласкі Божыя. Трэба нам перш за ўсё сьцяміць патрэбу пакоры і прасіць Госпада Бога, каб даў нам гэтую цноту. Трэба нам ачысьціць сваю душу ад уласнага я, а тады Госпад Бог напоўніць нашу душу сваімі дарамі. *„На каго ж гляну, — кажа Госпад, — толькі на ўбогага і скрушанага духам?“* (Ісайя 66, 2).

Найсьвяцейшая Дзева Марыя дала нам найлепшы прыклад пакоры, бачым на гэтым прыкладзе як падабаецца Госпаду Богу душа пакорная, хай-жа гэты прыклад пабудзіць нас да пажаданьня ўсёю душою цноты пакоры. Праз пакору найпэўней падабаемся Богу, калі мы самі сябе панізім — Госпад Бог нас узвысіць. Амін.

*а. Антоні.*



# Што такое рэколекцыі і як іх адпраўляць.

*„Браты! ужо прышла пара ўстаць нам ад сну!... Ноч праходзіць, ужо днее... Дык адкінем справы цёмныя і апранемся ў зброю сьвятла! Як удзень — жывем чэсна: ня ў гульні і п'янстве, ня ў любошчах і распусьце, ня ў сварцы ды зайздрасьці!... Але апранецеся Госпадам Ісусам Хрыстом. Не дагаджайце целу ў пажадлівасьці.*

(*Рым. 13,11—14*)

Было гэта больш за 1500 гадоў таму назад. Ваеннымі шляхамі з Усходу на Захад, з над Волгі і Дунаю ішлі новыя плямёны і дабіваліся да брамы старадаўнага Рымскага царства. Зьляталі з галоў імпэратарскіх кароны, валіліся

пасады, гінула старая рымская культура, а з ёю разам і дзяржава. Такія былі цяжкія часы, што ўсе думалі: зблізжаецца ўжо канец сьвету.

І вось у тых часох, аднаго дня, ў Мэдыялянскім Парку спацыраваў размысьляючы адзін малады вучоны.

Раптам, чуе голас хлапчыны: «Вазьмі і чытай! Вазьмі і чытай!"...

Моцна зацікавіўся тым голасам хлапчаняці. Падышоў да крамкі, ўзяў у рукі падаваную яму кніжку, разгарнуў і пачаў чытаць першыя, ўпаўшыя яму ў вочы, словы:

„Браты! пара ўжо прышла ўстаць нам ад сну" і г. д. Аказалася, што гэта было Сьв. Пісаньне. Словы тыя так узварушылі маладую душу юнака, што сьлёзы ручвом паліліся, і Аўгустын, — так зваўся той юнак,—адразу разбудзіўшыся ад сну духовага, пашоў да сьвятога япіскапа Амброжага, раскаяўся ды пачаў новае жыцьцё...

* * *

„Вазьмі і чытай"... І мне тыя-ж словы зьбеглі на розум цяпер, калі маю вытлумачыць набожную практыку, што называецца рэколекцыі.

Браты! І нашыя часы падобныя да тых аўгустынавых. і ў нас пачынае памалу ноч праходзіць... ужо днее... Ноч бязладзьдзя грамадзкага і моральнага. Адзінкі і народы паволі будзяцца ад сну цёмнага, блуднага, дзікага жыцьця, ды ўстаюць з пасьцелі моральных нядугаў—хвароб. А ці-ж нам уставаць, мыцца ды сьнедаць не пара ўжо? Ці-ж на нашым падворку ўжо ня днее? ці-ж і нам ня трэба сілаў да працы ўдзень, які так хутка набліжаецца к нам?...

—Але калі і як устаць?—пытаецe.—Дзе набраць сілаў, узмацаваць і ачысьціць схварэлую, слабую душу?...

— Цяпер, вось, браты дарагія, падчас гэных рэколекцыяў.

Што такое рэколекцыі і як іх адпраўляць?

1. Мілыя мае—гэта час прабуды ад сну духовага, час праціраньня вачэй, час мыцьця і прыхарошваньня душы ды засіляньня яе Божаю навукай і Сьвятымі Дарамі Цела І Крыві Хрыстовай. Гэта час зьбіраньня расьцярушаных духовых нашых сіл, ды прасьвятляньня іх лячэбнымі праменьнямі навукі і ласкі Хрыстовай.

Абудзіцца—гэта значыць: ачуціць сябе, апрытомніць; працёрці вочы — гэта значыць: зьняць з іх санлівую павалоку сумніваў, моральнае сьлепаты, глянуць ясна ўперад, даглядзець мэту жыцьця і перашкоды да яе—упарадкаваць думкі, вырабіць перакананьні,

Потым умыць загаджаны праступкамі твар нашай душы... абмыцъ сьлязьмі каяньня і пакорным сазнаньнем грэшную душу. Тады памаліўшыся зблізіцца да Божага стала, дзе чэрпацімем незямныя сілы да новага, чэснага жыцьця.

2. Рэколекцыі—гэта падвод білянсу, аблічаньне мінусаў і плюсоў, добрых і дрэнных чынаў і нахілаў...

3. Рэколекцыі—гэта праверка білету нашай падарожы да неба, праверка сумленьня; ці на добрай я дарозе, ці на злой, — як вярнуцца і знайсьці добрую дарогу? Калі на добрай, — як утрымацца і забясьпечыць сябе ад блуджэньня і перашкод? Дзе чэрпаць сілы і энэргію па гэнай праведнай дарозе хутка ісьці, не валачыся сонна, але ісьці?.. Дзе Павадыр наш і Памоцнік у гэтай падарожы?...

Адказаць на гэтыя пытаньні і будзе заданьнем падчас рэколекцыяў. Адказаць на гэтыя пытаньні, гэта значыць адправіць рэколекцыі.

## Як-жа іх адпраўляць?

1. Перш за ўсё — ўвайдзі ў сябе, супакой сябе. Усё, што адцягае тваю цікавасьць ад справаў духовых—адлажы на бок! Забавы, сьмехі, непатрэбную балбатню, сваркі-спрэчкі, надʻзвычайныя клопаты гаспадарскія — ўсё гэта кіньма на сторану, яны не ўцякуць. Занадта мы ў жыцьці многа ім пасьвячаем часу і глумім сіл. У спакойным возеры хораша адбіваецца твой твар, а ў збураным, расхваляваным—нічога ня ўгледзіш. У спакойнай, набожнай душы добра, ясна адбіваецца абраз Божы, а ў няпрытомнай, расшалопанай не дасьлядзіш сьвятасьці падобнай Богу.

2. Зачыні дзьверы душы—вочы, вушы, язык!

а. Вочы—не зазірайся, на што ня трэба, апусьці вочы, падчас рэколекцыяў будзь скромным. Скажы сабе: сяньня нічога мяне ня цікавіць, апрача Бога і мае ўласнае душы.

б. Вушы—ня прыслухоўвайся абы якім брэдням і балбатні! Пастанаві сабе: апрача Бога, сьвятое навукі і свайго сумленьня больш нікога ні аб чым сяньня не хачу слухаць.

в. Язык—не ўдавайся з нікім у непатрэбныя размовы, замкні вусны, адкрывай іх толькі хіба дзеля малітвы. Гэта-ж ясная рэч, што: калі хочуць на фабрыцы пачысьціць машыну, то мусяць яе затрымаць, так сама і тут: хочаш прачысьціць язычок свой распушчаны, каторым няраз абражаў Бога і людзей, прытрымай яго ды старанна прыглядзься да тых плямаў праклятых плётак ды брыдамоўства, што яго брыдзяць, тады лягчэй яго будзе ачысьціць.

3. Маліся! Прасі Госпада Бога: хай пашле прамень ясны, каб пазнаў грахі ды іх згубныя наступствы, прасі ў

Бога многа добрае ахвоты і сільнае волі, каб зло зьненавідзеў, дабро палюбіў. Дык зьвярнемся-ж цяпер з такою гарачаю, пакорнаю малітваю да Бога:

**Божа добры! Вось мы, прачытаўшы словы слугі Твайго. разбудзіліся і хочам устаць... Памажы нам! Памажы вочы працёрці; асьвятлі думкі, выпрастай ды ўмацуй пераканаьні!... Дай пазнаць нам сэнс і вартасьць нашага жыцьця, пакажы запраўдную мэту, да каторае мы створаны і для каторай варта нашыя дарагія пасьвячаць здольнасьці і сілы!..**

**Памажы зразумець і ацаніць належна запраўдныя перашкоды на дарозе да гэтае мэты, ды ад іх адвярнуцца!...**

**А калі пакажаш нам чар запраўднага шчасьця—жыцьця з табою—разбудзі ў душах нашых такое сільнае пажаданьне Яго, каб ужо ніякая зямная роскаш, ніякая тандэта і благота нас ад Яго адцягнуць ня здолела.**

*П. Т.*

---

# Шчасьце—мэта чалавецтва. Той запраўды шчасьлівы, хто жыве з Богам.

Калі ў якой-нібудзь мясцовасьці асядзе слаўны лекар, што адразу ўмее распазнаць хваробу ды прыпісаць адпаведнае лякарства, дык да яго сходзяцца, а то і зьяжджаюцца з усіх бакоў хворыя, парадзіцца, як скора прыйсьці да здароўя.

У нашую пару точыць усё чалавецтва адна цяжкая хвароба, гэта: нездаваленьне з свайго стану, з свае долі. Хворых на гэтую хваробу поўна ўсюды; яна эпідэмічна і заразьліва ахапляе сяньня ўсё, што жыве, бо кожны наракае на цяжкія часы, на сваё становішча, беднату, даўгі, бязладзьдзе і г. д.

Школьная моладзь заўсёды наракае, што няма нічога горшага, як быць вучнем.

Тыя зноў, што скончылі навуку, лічаць школьныя часы за найпрыямнейшую пару ў жыцьці.

Сяляне завідуюць гарадзкім урадоўцам і інтэлігэнцыі: яны, — кажуць, — нічога ня маюць рабіць. Ці слата, ці пагода — сядзяць дома, а плата йдзе. Ды што-ж там за праца: махаць пяром, круціць мазгамі, або мянціць языком.

Урадоўцы зноў завідуюць сялянам, „бо з „хлопа“ іх, прынамсі ніхто ня скіне“; старшых, прыганятых над сабою

і кантралёраў ня маюць, не патрабуюць нічога купляць, амаль усё маюць сваё дый жыцьцёвыя вымогі іх зусім малыя. — Вайсковыя глядзяць крывым вокам на цывільных, а тыя на вайсковых.

Багатыры завідуюць бедным, а бедныя багатым. Бязьдзетныя — тым, што маюць дзеці, а гэныя апошнія зноў — бязьдзетным. Вось так ніколі ня ўціхае нараканьне і стогны.

Такая хвароба нас гняце, а дзе-ж лекар на яе?

О, многа, многа круціцца ля нас сяньня лекараў! Ды замест падаць нам пэўныя, выпрабаваныя лекі, што папраўляюць долю наракаючага чалавецтва, яны яшчэ больш яе дразьняць, бо адначасна падшэптываюць усім гаротным: „о, глядзі, які той багатыр, ён-жа грошай ня мае куды дзець, а збожжа, а зямлі! не пералічыш! А ты што? бядняк, лапцявоз, апошні жабрак! Жыцьцё такога — то-ж рай, а тваё — пекла! Дык ідзі адбірай!“...

Нажаль, такія лекі нічагусенька не памагаюць, яны разбуджаюць толькі злосьць і ненавісьць, падымаюць калатню, разбой, крывавыя рэвалюцыі, каторыя ў моры сьлёз і крыві топяць разам і багатых і бедных...

Дык ня тых нам трэба слухаць парады, каторыя жадаюць дагадзіць толькі чэраву, каторыя і сябе і нас вядуць толькі да гібелі, касуючы Бога і Ягоную Царкву.

Можа ня хочаце верыць, дык прыгледзьмася бліжэй да нашага жыцьця сучаснага. Гэны сьвет — гэта вялікі мурашнік. Усё ў ім разам круціцца, верціцца, гніе, прэе, працуе цяжка, з трудом цягне на сабе ярмо. ...Падаюць, бы тыя мурашкі, пад цяжарамі і зьнікаюць з вобліку зямлі... На іх месца зьяўляюцца другія і зноў пачынаецца тое самае... Часамі змагаюцца адны з другімі на сьмерць і жыцьцё, а то і забіваюцца насьмерць. А мы дзівімся, на ўсё гэта гледзячы, чуем, што і нас уцягнуць у тую барацьбу ды пытаем: „Нашто і пра што ўсё гэта? Якая мэта чалавечаму жыцьцю? Навошта ўсе тыя змаганьні і клопаты, нашто тая барацьба за хлеб, за істнаваньне, за пазорны блеск нятрывалага шчасьця — за т а н д э т у? Ці-ж бы чалавек быў так мала варт?“...

Жыцьцё ўяўляем мы сабе ў рожавых занадта хварбах, а тут дзень за днём штось іншае. Дзеля таго і пытаем сябе з горкасьцю, чаму Госпад уладзіў наша жыцьцё так бесталкова? Дзе шчасьце, каторага жадоба нас заўсёды мучыць, дзе запраўдная ўцеха, дзе радасьць?

А трэба аднак верыць, без найменшага сумніву, што Бог, Наймудрэйшы арганізатар сьвету, Найвышэйшая Дабрата, ўліў у нашае сэрца праґавітае жаданьне шчасьця, а тым самым хоча, каб мы маглі яго асягнуць, да яго дайсьці. Адкуль-жа ж бярэцца тое працівенства, што чалавек, імкнучыся да шчасьця, пасьвячаючы для яго ўсе свае сілы, чу-

ецца часта, вельмі часта, нездаволеным, нешчасьлівым? Хто-ж тут вінават? Можа Бог? Ніколі! Вінават тут сам чалавек, бо жаданьне шчасьця хоча заспакоіць здабыцьцямі, якія шчасьця не даюць, маюць толькі пазалоту шчасьця, блішчаць толькі зьверху, а ўнутры выклікаюць горкае расчараваньне ды зьняверу.

Бедны чалавек стрымгалоў кінуўся дабываць сабе райскую долю тут на зямлі і то за ўсякую цану — дый да яе не дайшоў. Дык ня дзіва, што, вытраціўшы ўсю жыцьцёвую энэргію ў гэтай пагоні, і здабыўшы па найбольшых захадах жменьку попелу і саломы, збалелы і сумны, прыняволены быў сказаць з Салямонам: „Марнасьць над марнасьцямі і ўсё марнасьць!“...

І Вы ўсе, Браты Дарагія, імкнецеся да шчасьця, здабываеце яго апошнімі сіламі! А ці-ж ступаеце праведным шляхом у належным кірунку? Ні адзін пэўна з Вас мроіць здабыць грошы-маемасьць, бо лічыць яе за найважнейшую падставу жыцьця. Уладжаны з комфортам дом, гаспадарскія будынкі, прылады, багаты інвэнтар, пухавое ложа, смачная, поўная талерка, з добраю чарачкаю, а пры тым усім — кругом поўная свабода — вось маё шчасьце, — думае не адзін з Вас. А ці-ж ня мыляецеся Вы? То-ж і за каштоўнымі заслонамі княжых палатаў часта многа бяды ў сто раз горшае, як у Вас, бо не матар'яльнае, а моральнае бяды. „На дарагую вопратку каралевы больш няраз падае сьлёз, як на грубую сарочку не аднае сялянкі“, — сказала раз каралева П'емонту да Кардынала Мэрмільёда, які застаў гэную паню з заплаканымі вачыма. А сын найбольшага на сьвеце мільянэра Ротшыльда адабраў сабе ў 22 годзе жыцьцё, пэўна-ж не дзеля недахвату грошай, ці выгадаў.

„Вечарніцы, танцы, забавы, балі, жаночае таварыства і любошчы — вось дзе мая роскаш“ — думае іншы. Яно так, люба, люба пагуляць, не пярэчу! Ды толькі на мінуту, на малы часочак. На цэлае жыцьцё не хапае. Прайдзе маладасьць, аслабне ахвота, замоўкне музыка і сьпеў, — а ў сэрцы, што спадзявалася ў іх знайсьці шчасьце, астанецца пустата, горыч ды балючы ўспамін!...

Дык што-ж? Няма шчасьця на гэным сьвеце, толькі пусты абман? Астаецца толькі наракаць, аддаўшыся роспачы ды безнадзейным сумнівам?

О, не! Шчасьце ёсьць на гэтым сьвеце, яго можна асягнуць, толькі ня ў тых рэчах, каторых дамагаюцца нашыя змыслы, бо гэтыя рэчы нятрывалыя і не для ўсіх даступныя. Яны толькі асьляпляюць чалавека хвальшывым блескам, вабяць к сабе ды абманваюць. Праўдзівае шчасьце ёсьць толькі ў Бога ды ў жыцьці паводле ягоных прыказаньняў. Ён адзін толькі ў сіле запоўніць глыбіню чалавечага сэрца, пажыранага гарачаю жадобаю асягнуць

бесканечнае Дабро. Як на лоне маткі дзіця, так мы, людзі, толькі на лоне Бога, нашага найлепшага Бацькі, можам быць шчасьлівымі. Дазнаў таго ў сваім жыцьці сьв. Аўгустын і дзеля таго кажа:

„Плача душа мая і сьціхнуць ня можа
І хіба супакою не знайдзе сабе,
Аж пакуль, мой моцны, літасьцівы Божа,
Не адпачыне на век вечны ў Табе!“

Дык вось дзе шчасьце, вось шлях да яго!

Расказваюць, што ўміраў у адным краі адзін вельмі малады цар. Насклікалі да яго многа, многа дактароў ды ніхто ня мог што-нібудзь яму памагчы. У канцы знайшоўся нейкі старычок, каторы дарадзіў так: Цар тады толькі можа выздаравець, калі ўзложыць на сябе сарочку здаровага шчасьлівага чалавека. Як бач, разаслаў той цар сваіх слуг ва ўсе стораны сьвету з прыказам: знайсьці шчасьлівага чалавека і хоць-бы за найбольшую цану купіць у яго сарочку. Доўга шукалі слугі шчасьлівага чалавека дый ніяк не маглі знайсьці, ні між багатымі панамі, князямі, ні між дваранамі і вураднікамі, ні між купцамі, мяшчанамі, ні між сялянамі, ні сярод моладзі ды старыкоў — ніхто з іх не пачуваўся шчасьлівым. І знеахвочаныя і прыбітыя сумам вярталіся да дому. Аж на адлюдным прадмесьці сталіцы сустрачаюць яны вясёлага, чорнарабочага батрака, што з мяшком на плечах і з песьняю на вуснах вяртаўся дамоў. Затрымалі яго царскія слугі і пытаюць: ці ня бачыў ён прыпадкам дзе-нібудзь шчасьлівага чалавека? „Я сам шчасьлівы“, — адказвае — без надумы—парабак. „Як то? Ты?“ — дапытваюцца недаверчыва царскія пасланцы, ды сталі прасіць яго, на чым сьвет стаіць, каб прадаў ім сваю сарочку. Але аказалася, што наш незнаёмец быў без сарочкі. Ён падараваў яе свайму хвораму суседу. Калі-ж слугі пачалі дзівавацца: якім чынам можа пачуваць сябе шчасьлівым чалавек, нямаючы на’т на сабе сарочкі, дык той адказаў ім: — „Працую шчыра, зарабляю на штодзенны кусок хлеба, нікому не раблю зла, спаўняю Божыя прыказаньні, як магу ўцякаю ад граха— і вось таму чуюся шчасьлівым!“

*Надбужны.*



## *У дзесятыя ўгодкі съмерці А. Зязюлі.*

**Успамін.**

*Прачытаўшы кніжку*
*З роднага загону,*
*А ўжо гадоў дзесяць*
*Пасьля Яго згону.*
*Сьпіць пясьняр вялікі*
*У маладым веку,*
*Такую судзьбу Бог*
*Прыслаў чалавеку.*
*Пяяў нам нядоўга,*
*І нядоўга жыў,*
*Але свае творы*
*Добра улажыў.*
*З душы выліваў Ён*
*Праўду, веру ў Бога.*
*Пражыў хоць нядоўга,*
*А пакінуў многа.*
*Любіў вельмі край свой.*
*Ён для яго жыў*
*І для яго-ж многа*
*Працы прылажыў.*
*Забраў Бог ня ў пору—*
*Така Яго Воля.*
*Плач, Беларусь родна,*
*Твая така доля.*
*Ты сьпі, пясьняр мілы,*
*У зямліцы сырой.*
*Мы за Цябе молімся,*
*Дай вечны пакой!*

Е. ВАНСЛАЎ.



# Наш адказ.

Пачаў у папярэднім нумары, цяпер далей адказваю на закіды артыкулу Праваслаўнага Календара на 1933 год пад назовам: „Что такое унія „восточнаго обряда“ и почему мы боремся съ ней?“

1. Аўтор артыкулу піша, што нашай (уніятаў) задачай ёсьць:

*Ганебнаю ілжою і пранікданьнем зьбіць з толку, увясьці ў памылку праваслаўны народ і, процi яго волі, без яго згоды і веды, уціхнуць у Рымскую аўчарню“*

Гэта няпраўда. Нікога мы абманам не цягнулі і цягнуць да сябе ня думаем, як гэта рабілі з нашымі дзядамі і прадзедамі маскалі. Кожны, хто да нас прыходзіць, прыходзіць па сваёй ахвоце, ніхто яго сілком ня цягне, ніхто яго да нас „нагайкай“ не жане. Кожны ведае і можа сьцяміць, што хаця вонкава ў нас, як і ў нязлучаных праваслаўных, аднак ня ўсё роўна. А калі-б хто і папаў праз памылку, дык такога мы ня прыймаем. Часта здараецца, што прыяжджаюць да нас з далейшых ваколіц і вельмі просяць, каб іх прыняць да сьвятой Уніі і каб павянчаць. Такіх ня прымаем, бо малая надзея ёсьць, што яны будуць трымацца нашае царквы, жывучы далёка ад нас.

Ня думайце, дарагія браты нязлучаныя праваслаўныя, што нам важна толькі прыняць, о, не! яшчэ больш нам ляжыць на сэрцы, каб прылучыўшыхся да нас перарабіць на добрых хрысьціян, даць ім іншага духа.

2. *„Ведама,*—так піша аўтор артыкулу, — *што мэтоды прапаганды „усходняга абраду“ збудаваны на прынцыпе слаўнага айца езуітаў Ігната Лёйолі: „мэта апраўдывае сродкі.“*

Адказ на гэту фальшывую выдумку аб езуітах я ўжо пісаў у нашай часопісі (№12 на месяц сьнежань 1932 году). Яшчэ ніхто з вучоных не даказаў, што сказ: „мэта апраўдывае сродкі“ знаходзіцца ў пісаных творах езуітаў, можна таксама быць цалком перакананымі, што малакультурны аўтор артыкулу таксама гэтага не дакажа.

3. ,,*Вынік так вялікай працы,* — так піша далей аўтор артыкулу, — *кьля наверненьня праваслаўных у Каталіцтва праз „усходні абрад“ — вельмі малы.“* На пацьверджаньне свайго сказу аўтор артыкулу прыводзіць сьведчаньне ксяндза Любянца з Вільні і а. Яна Урбана з Кракава.

На гэта можна адказаць, што сьвятасьць працы ня мерыцца вялікім вынікам наверненых. Малы вынік не павінен зьнеахвочваць місіянэраў у іх сьвятой справе. Вялікі місіянэр Афрыкі кардынал Лявіжэры доўга працаваў і ня бачыў вялікіх вынікаў свае працы. Толькі пасьля паўсотні гадоў пачало яго дзела расьцьвітаць буйным цьветам,

Праца над злучэньнем праваслаўных, дзякаваць Богу, ужо дала добрыя рэзультаты, можна сказаць расьцьвіла буйным цьветам. На апошняй конфэрэнцыі ў Пінску а. Неманцэвіч, асноўваючыся на афіцыяльных жоралах, даў агульную лічбу верных — 23,866 чал. і 50 духоўных усходня-славянскага абраду. Ці-ж гэта вельмі мала? Праца унійная толькі пачынаецца, яшчэ толькі пачалі істнаваць сэмінарыя ў Дубне і навіцыят езуітаў у Альбэртыне. Нашы няпрыхільнікі аднак мусяць прызнаць, што пачатак справы наладжаны ўжо добра. Пэўне, калі-б ня было небясьпекі, ня крычалі-б на усё горла—гвалт, ня пісалі-б так многа проці сьв. уніі.

4. „*Не аб аб'яднаньні яны (уніяты) думаюць,*— так піша далей аўтор артыкулу, — *але аб падчыненьні нашым Рыму.*"

Гэта праўда, толькі трэба вышэйпрыведзены сказ добра сьцяміць, тады ня будзе такім страшным, як некаторым здаецца.

Ня трэба думаць, што царква Хрыстова распалася на часткі, якія трэба злучыць у адно цэлае, у адну царкву. Такой думкі хрысьціянін дапусьціць ня можа. Пярэчыў-бы такі сказ словам Ісуса Хрыста аб Царкве: „*і вароты пякельныя не перамогуць яе*" (Мацьв. 16, 18). Перамаглі-б вароты пякельныя, калі-б Царква распалася на часткі. Вось чаму, калі гаворым аб злучэньні, ня думаем аб нейкім фэдэратыўным злучэньні частак у адно цэлае.

Царква Хрыстова, — як была спачатку, так і ёсьць цяпер, — толькі адна. З самага пачатку кіраваў гэтай Царквой Сьв. Апостал Пётра, а пасьля ягоныя наступнікі япіскапы гораду Рыму.Нажаль,некаторыя часткі адпалі ад гэтага адзінства, ведама з гісторыі, калі гэта было. Прычынай парваньня лучнасьці была пыха: „ня буду падчыняцца япіскапу Рымскаму, я сам роўны яму," — так казаў патрыярх канстантынопальскі Міхал Керулары. Гэта-ж пыха і цяпер не пазваляе злучыцца: „Не хачу прызнаць зьверхнасьці над сабою Сусьветнага Архірэя Папы Рымскага,"—так кажа Мітрапаліт Варшаўскі Дзяніс і іншыя самагаловыя япіскапы нязлучанага праваслаўя. Лічаць для сябе вялікім паніжэньнем паддацца пад залежнасьць ад Найвышэйшай Духоўнай Улады, а ня лічаць за паніжэньне быць у залежнасьці ў справах духоўных ад паноў у фраку, ад сьвецкае ўлады. У Расеі кіраваў царквой цар, усе гэта ведаюць, ніхто гэтаму ня можа запярэчыць. А ў Канстантынопалі залежнасьць была і ёсьць яшчэ горшая, бо ад турэцкага султана.

Так, дарагія браты нязлучаныя праваслаўныя, Госпад Бог брыдзіцца пыхай і пышных паніжае. Ня хочуць вашыя япіскапы паддацца пад кіраўніцтва Сусьветнага Рыму, мусяць слухаць кожны ў сваім краі паноў сьвецкіх. Кожны з вас сьцяміць, якая ў гэтай залежнасьці крыецца небясь-

ка для чысьціні веры і моральнасьці хрысьціянскай. Вось, мае дарагія браты нязлучаныя праваслаўныя, чаму ёсьць так важнай справай прызнаньне Папы Рымскага галоўным зьверхнікам у Царкве Хрыстовай. Гэта залежнасьць ад наступніка Сьв. Пётры мае вялікі ўплыў на духоўнае жыцьцё хрысьціян.

5. „*Але нам бліжэйшы і даражэйшы Хрыстос Збаўца сьвету*,—так піша далей някультуры аўтор артыкулу,— *чым грэшны Рымскі Япіскап з усім яго баявым духавенствам.*“

Вельмі прыкра на такі дэмагогічны і дурны сказ, напісаны для дурных цёмных людзей, адказваць, але дзеля таго, што такое дурэньне дурных галоў часта паўтараецца, хаця ўжо аб гэтым пісаў, мушу яшчэ раз на гэты закід адказаць.

Паводле абаронцаў нязлучанага праваслаўя выходзіць так: мы верым у Ісуса Хрыста, а уніяты вераць у Папу Рымскага і яму падчыняюцца.

—Ну, кажы, дурны мужык беларускі,што ляпей: падчыняцца Папе Рымскаму ці Ісусу Хрысту?

Пэўна, у нашым народзе ня мала знойдзецца такіх, што на падобнае пытаньне адгукнуцца— га, што? чаго? — У каго верыш—у Папу Рымскага ці ў Ісуса Хрыста?—

— Пэўна, — айцец благачынны, — што ў Ісуса Хрыста.

— А вось уніяты, замест Ісуса Хрыста, вераць у грэшнага Папу Рымскага.

І бедны дурны мужык верыць гэтакім і таму падобным брэдням.

Разумнейшы аднак запытае, ці-ж гэта праўда, што уніяты і каталікі лацінскага абраду ня вераць у Ісуса Хрыста? Чаму-ж яны крыжы ў сваіх хатах трымаюць, чаму яны да цэрквы ходзяць і Сьв. Прычасьце прыймаюць?

Хто хоць трохі мае розуму, той ня будзе сумнявацца, што гэта выдумка: як уніяты, так і каталікі вераць у Ісуса Хрыста і мо' ня менш за нязлучаных праваслаўных любяць Яго.—Уніяты і ня думаюць ставіць замест Ісуса Хрыста Папу Рымскага.

Папа Рымскі не закрывае сабою Ісуса Хрыста, Папа Рымскі—гэта слуга Збаўцы,што выпаўняе яго сьв. волю.

Па справядлівасьці трэба гэтак у беларуса мужыка запытацца: каму хочаш падчыняцца, ці Мітрапаліту Дзянісу ў Варшаве, ці Сусьветнаму Архірэю ў Рыме?

На гэта беларускі мужык, па большай часьці, адкажа: —Мне ўсё роўна, а што мне Мітрапаліт Дзяніс?

А той, каторы прыняў сьв. Унію, чуецца бліжэй Хрыста і сваіх продкаў...

На далейшыя закіды адкажу наступны раз.

*Злучэнец.*

# Хроніка.

## I. У ПОЛЬШЧЫ.

**1. Кракаў.** У месяцы лютым выйшла новая часопісь (папольску), пасьвечаная унійнай працы пад назовам „Oriens". Выходзіць у Кракаве раз на 2 месяцы, выдавецтва Усходняе Місіі Айцоў Таварыства Ісусавага, пад рэдакцыяй ведамага ў Польшчы публіцыста а. Яна Урбана Т. І. Першы нумар прадстаўляецца вельмі паважна, як вонкавым выглядам, так і па зьместу. Часопісь мае за задачу даваць інфармацыі аб унійнай працы і бараніць яе ў польскім грамадзянстве ад розных закідаў. Часопісь мае на мэце людзей інтэлігэнтных, для простага народу дзеля таго мала зразумелая. Цана двумесячніка 8 зл. на год. Адрэс рэдакцыі: Kraków, ul. Kopernika 26. Ks. Jan Urban T. J.

Вельмі цешымся, што пастанова III Унійнае Конфэрэнцыі зьдзейсьнілася. Жадаем ад усяго сэрца, каб новая унійная часопісь выпаўніла сваю вялікую задачу ў сьвятой справе Уніі.

**2. Слонім.** Па прычыне хваробы а. Неманцэвіча, настаяцеля ў Альбэртыне, Сьвятой Літургіі усходня-слав. абраду 29.I. с. г. не адпраўлялася ў Слонімскім па-Бэрнардынскім касьцёле. Многа, як кажуць, прыходзіла людзей, зацікаўленьне заўважваецца вялікае. Пры дзьвярох было прыбіта абвешчаньне, што Сьв. Літургія ўсх.-слав. абраду ў наступны раз будзе адпраўлена 26.III. с. г. а $11^{1}/_{2}$ гадз.

**3. Альбэртын.** 15 лютага с. г. ў Альбэртынскай царкве ў часе Сьв. Літургіі злажылі ўрачыста вечныя манашаскія прысягі сябры Таварыства Ісусавага Язэп Колэцкі з Дубна і Бр. Казімер Канскі з Сынковіч. Людзей было поўная цэркаўка. На ўсіх прысутных гэтыя прысягі зрабілі вялікае ўражаньне.

**4. Варшава (КАП. 6.II.1933 г.). Выясьненьне Нунцыятуры.** Паданая некаторымі штодзеньнікамі вестка аб нейкай нібыто крадзежы дакумантаў з Ватыканскіх Архіваў Кс. Дэйбнэрам была запярэчана ў „Osservatore Romano".

Ня быў ён сэкрэтаром якога-нібудзь япіскапа, меў толькі абавязак парадкаваньня бібліятэкі Ўсходняга Інстытуту і займаўся перакладам часопісяў.

**5. Сельцы (КАП). Конфэрэнцыя з сьвяшчэньнікамі ўсходняга абраду.** 10 лютага с. г. ў Епархіяльнай Курыі ў Сельцах пад кіраўніцтвам Я. Прав. Япіскапа Пшэзьдзецкага адбылася конфэрэнцыя з сьвящчэньнікамі ўсходня-славянскага абраду з епархіі Падляскай. На конфэрэнцыю сьвяшчэнь-

нікі прыехалі з напісанымі справаздачамі аб палажэньні іх парафіяў рэлігійным, матар'яльным, а так-жа і аб перашкодах, якія сустрачаюць у сваёй працы, прадставілі таксама на пісьме свае пажаданьні, якія маглі-б паслужыць да поступу ў душпастырскай працы. Сабраныя сьвяшчэньнікі атрымалі ад Япіскапа адпаведныя пастановы і распараджэньні.

**6. Варшава (КАП). Новае выданьне пастырскага ліста аб уніі.** Паявілася ў друку другое выданьне пастырскага ліста аб уніі Я. Прав. Япіскапа Г. Пшэзьдзецкага „O pracy unijnej w Polsce“ (Варшава, выдавецтва К.А.П.).

Першае выданьне Ліста ў лонскім годзе, каторае выйшла ў 3000 экз., разышлося. Па прычыне далейшага зацікаўленьня Лістом і запатрабаваньня як з боку духавенства, так і сьвецкіх людзей, КАП выдала Ліст у другім выданьні 5000 экзэмпл.; дададзены аўторам уступны артыкул і некаторыя дадаткі ў зьмесьце самага ліста.

**7. Бабровічы.** У ваколіцах Бабровічаў унія штораз шырэй захапляе народ. У сяле Обраве рух гэты выявіўся тым, што падалі просьбу да Япіскапа Пінскага, каб ім прыслаў уніяцкага пробашча, а да Ваяводы Палескага — каб памог ім у гэтай справе. З распараджэньня япіскапа ў нядзелю перад Калядамі адправіў у Обраве першую уніяцкую службу а. Б. Пачопка з Бабровіч. На службе пяяў мясцовы псаломшчык з хорам ды прыслужваў мясцовы царкоўны стараста. Адчуваецца патрэба пасадзіць уніяцкіх місіянэраў яшчэ ў якіх пяцёх пунктах непадалёку ад Бабровіч.

## II. ЗА ГРАНІЦАЙ.

**1. Рым. Новыя каталіцкія архіяпіскапы і япіскапы ў Польшчы.** Сусьветны Папа Рымскі Піус XI назначыў архіяпіскапамі тытулярнымі (бяз епархіяў) Іх Прав. япіскапаў Валэнгу і Галля, — япіскапам епархіяльным у Тарнове Я. Прав. япіскапа Лісоўскага, а япіскапам ваенным — а. Пралата Гаўліну, настаяцеля ў Каралеўскай Гуце на Сьлёнску.

**2. Горад Ватыкан. Назначэньне новых кардыналаў.** „Osservatore Romano“ абвясьціла афіцыяльна, што 13 сакавіка сьв. Айцец адбудзе тайную кансысторыю, на якой назначыць шэсьць новых кардыналаў: Архіяпіскапа Дольчі, апостальскага нунцыя ў Румыніі, Архіяпіскапа Фумазоні Біонді, апостальскага нунцыя ў Вашынгтоне, Архіяп. Турыну Фоссаті, Архіяп. Кэбэку Вільнэв, Архіяп. Далля Коста з Флёрэнцыі і Архіяп. Інніцэра з Вены (КАП).

**3. Горад Ватыкан (КАП).** 9.II. с. г. памёр Кардынал Фрювірт, які належаў да закону Даменіканцаў. Радзіўся ў 1845 г.

Кардыналам быў ад 1915 г., апошнім часам займаў становішча Канцлера сьв. Рымскай Царквы. Многа палажыў працы каля кананізацыі Сьв. Альбэрта Вялікага.

**4. Бэрлін. Урад Гітлера адносна да рэлігійнай належнасьці.** Паміж 12 сяброў габінэту Гітлера 4 каталікоў (Гітлер, Папэн, Фэлц фон-Рубэнах і др. Гюртлер), а 8 эвангелікаў.

**5. Загрэб.** У палацы харвацкага каталіцкага архіяпіскапа Антонія Баўэра, па загаду самога караля Югаславіі Аляксандра, паліцыя зрабіла вобыск. Нічога падазроннага паліцыя ў архіяпіскапа не знайшла. Архіяпіскап у знак пратэсту на рукі старшага паліцыянта зложыў ордэр, кажучы: „Чалавек, у якога мусіла быць зроблена рэвізія, не заслугоўвае на высокае адзначэньне".

Абурэньне каталікоў у Югаславіі па прычыне рэвізіі ў Архіяпіскапа вялікае.

**6. Рым. Колькі каталіцкіх цэркваў у Рыме?** Паводле «Diario Romano Vaticano», у Рыме цяпер ёсьць 390 каталіцкіх цэркваў, 160 часоўняў і 53 дамоў малітвы. Будуецца яшчэ 25 цэркваў. Хрысьціянскіх могільнікаў у Рыме 44 (КАП).

**7. Францускавя княгіня ўступіла да манастыра.** Княгіня Іоанна дэ-Бэарн, паходзячая а аднаго з найбагатшых і найстарэйшых радоў Францыі, зложыла нядаўна законныя шлюбы. Цэрэмонію прыняцьця шлюбаў выпаўніў япіскап Брюлэп дэ-Варан з Тулёну. Княгіня дэ-Бэарн паступіла да кляштару Візытак у Тулёне (КАП).

**8. Вялікія навярненьні ў Індыі. (КАП).** З Бомбаю пішуць, што апошнім часам, ідучы за прыкладам Мар Іваніоса, выявіў сваю ахвоту прылучыцца да Сусьветнае Царквы яшчэ адзін якобіцкі япіскап разам з 30 сьвяшчэньнікамі і 20 тысячамі веруючых. Парафіяў будзе каля 100.

**9. Сьмерць каталіцкага япіскапа ў Савецкай Расеі. (КАП).** Да Ватыкану дайшла вестка аб сьмерці на Крыме япіскапа Цэрра, які быў калісьці епархіяльным япіскапам у Саратаве. Таксама на Сібіры памёр кат. япіскап Кароль Сьлівінскі, першы япіскап усходняга Сібіру.



# Календар

на м—ц Сакавік. 1933 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль.**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | А | Аўдоцьці | 14 | A | Matyldy, Lawona |
| 2 | С | Хвядоса | 15 | S | Klemansa |
| 3 | Ч | Еўтропія | 16 | Č | Abrahama pust. |
| 4 | П | Гарасіма | 17 | P | Patrycyja b. |
| 5 | С | Конана | 18 | S | Kiryła |
| 6 | Н | **42 муч. з Аморэі** | 19 | N | **Jazepa Abl. NDM.** |
| 7 | П | Яфрэма | 20 | P | Klaŭdyi |
| 8 | А | Тэофілакта | 21 | A | Benedykta op. |
| 9 | С | 40 муч. з Сэбаст. | 22 | S | Kaciaryny |
| 10 | Ч | Кандрата | 23 | Č | Feliksa |
| 11 | П | Сапрона | 24 | P | Gabryela arch. |
| 12 | С | Тэафана | 25 | S | Zwiast. N. D. M. |
| 13 | Н | **Нікіфара** | 26 | N | **Todara** |
| 14 | П | Бэнэдыкта | 27 | P | Jana Dam. |
| 15 | А | Агапа муч. | 28 | A | Syksta |
| 16 | С | Савіна і Юльяна | 29 | S | Eŭstazija |
| 17 | Ч | Аляксея | 30 | Č | Anieli ŭd. |
| 18 | П | Кірылы | 31 | P | Balbiny p. |
| | | | | | KRASAWIK. |
| 19 | С | Хрызанта | 1 | S | Hugona |
| 20 | Н | **Івана муч.** | 2 | N | **Franciška z Paŭli** |
| 21 | П | Якуба | 3 | P | Ryšarda |
| 22 | А | Базыля | 4 | A | Izydara |
| 23 | С | Нікана | 5 | S | Wincenta |
| 24 | Ч | Захара | 6 | Č | Celestyna |
| 25 | П | **Дабравешч. П. Д. М.** | 7 | P | M. B. Balesnaj Epifanija |
| 26 | С | Арх. Гаўрылы | 8 | S | Dyonizaha |
| 27 | Н | **Вербніца. Матр.** | 9 | N | **Wierbnica** |
| 28 | П | Іларыона | 10 | P | Ezachela |
| 29 | А | Марка | 11 | A | Lawona W. pap. |
| 30 | С | Івана Ліст. | 12 | S | Juljuša pap. |
| 31 | Ч | Іпацця. Чысты. | 13 | Č | Krystyny, W. Čaćvier |

Рэдактар: а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.